*Дагавор з Расіяй перашкодзіў адкрыццю помніка (стар. 2)*
*Выхаванне паліцэйскай дубінкай (стар. 3)*



# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

19 красавіка 1996 г. № 29 Кошт свабодны

## «Зорка» Захаранкі

**"Гэта чарговае неўрастэнічнае рашэнне," — так пракаментаваў Ю.Захаранка апублікаваны 17 красавіка ўказ прэзідэнта аб паніжэнні яго ў званні (з генерал-маёра да палкоўніка).**

Фармулёўку ўказа былы міністр унутраных справаў назваў "прафанацыяй". "Ніякіх фінансавых парушэнняў, аб якіх гаворыцца ва ўказе, не было і не магло быць," — сцвярджае Ю.Захаранка. Ён хоча выказацца на гэты конт, а таксама па іншых праблемах, якія тычацца ягонай адстаўкі перад дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Аднак спікер Шарэцкі, па словах Захаранкі, знаходзіць розныя прычыны, каб не разглядаць гэтае пытанне. "Можа здарыцца так, што слова ў парламенце я не атрымаю; у такім выпадку мне давядзецца праз незалежную прэсу расказаць аб сапраўдных прычынах маёй адстаўкі," — гаворыць Ю.Захаранка.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Прага, Вроцлаў, Кракаў, Варшава, Гданьск...

**Яшчэ да прыбыцця Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка ў Вроцлаў польская прэса падрабязна распавяла пра пераслед, які распачаўся ў дачыненні да лідэраў БНФ у Беларусі і зазначыла, што Пазьняк і Навумчык былі вымушаныя пакінуць сваю краіну нелегальна.**

Адразу па прыездзе ў Вроцлаў лідэры БНФ былі прынятыя біскупам Тыравам, мэрам горада Богданам Здраеўскім і старшынёй гарадской рады Анджэем Лосем. Лекцыя Зянона Пазьняка "Незалежнасць Беларусі: пагрозы і перспектывы", прачытаная ў Політэхнічным універсітэце, сабрала больш двухсот прафесараў і выкладчыкаў з розных інстытутаў горада і скончылася спяваннем "Сто лят" у гонар беларускіх гасцей.

Пазьняк і Навумчык выступілі ў прамым эфіры нацыянальнага радыё, першая і другая праграмы польскага тэлебачання далі падрабязныя справаздачы з іх прэс-канферэнцыі. У гэтыя дні польская прэса надзяляе асаблівую ўвагу ацэнкам апазіцыйных палітыкаў сітуацыі на Беларусі. "Рэальную палітыку ў краіне ажыццяўляюць афіцэры КДБ, якіх наблізіў да сябе Лукашэнка" — цытуе *Gazeta Wyborcza* Сяргея Навумчыка. "Тое, што адбываецца ў Беларусі, ёсць фашыстоўскі рэжым. Няма вольнай прэсы, пераследуецца апазіцыя, правы чалавека парушаюцца", — прыводзіць словы Зянона Пазьняка газета *Wieczor Wroclawia*. Умовай змянення такой палітыкі з'яўляецца адстаўка Лукашэнкі з пасады прэзідэнта," — цытуе *Rzeczpospolita* заяву лідараў БНФ.

18 красавіка З.Пазьняк і С.Навумчык выехалі ў Кракаў. На чарзе — Варшава, Гданьск...

**Б.П.**

## Пошукі вінаватых працягваюцца

**Узбудзіўшы крымінальную справу па мінскім падзеям 24 сакавіка, сталічная пракуратура працягвае пошук вінаватых.**

Па словах следчага Сяргея Новікава, па гэтай справе пакуль "ідзе збор матэрыялаў". Ён паведаміў таксама, што з заявамі ў пракуратуру звярнуліся 4 чалавекі з ліку грамадзян, якія пацярпелі ад рук спецназа (пабітыя дубінкамі, атручаныя газам). Выказваючы асабістае меркаванне, сп.Новікаў сказаў, што ў пракуратуру прыйшло б, напэўна, значна больш людзей, калі б "улады не аб'явілі на дзяржаўным узроўні гэтую акцыю антыканстытуцыйнай". З гэтай прычыны пацярпелыя не хочуць мець да сябе лішняя непрыемнасці.

Што датычыць пераследу З.Пазьняка і С.Навумчыка, то следчы заявіў: "асабіста я не маю матэрыялаў у дачыненні гэтых людзей для ўзбуджэння крымінальнай справы". А іншыя маюць?

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

**СКАНДАЛ**

# Старшына міліцыі закаваў у наручнікі старшыню антыкарупцыйнага прэзідэнцкага камітэта

*Як гэта было і чым усё скончылася*

**Дзе-небудзь у Германіі, ЗША альбо іншай цывілізаванай краіне падобная скандальная гісторыя, пра якую мы сёння расказваем, скончылася б адстаўкай па меншай меры дзвюх персон: шэфа парламенцкай камісіі і міністра ўнутраных справаў.**

У нашым выпадку гаворка ідзе пра старшыню камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю **Мікалая Карпіевіча** і кіраўніка міліцэйскага ведамства **Валянціна Агальца.**

***Назаўсёды разам!***
*На здымках: старшыня парламенцкай камісіі М.Карпіевіч і шэф МУС В.Агалец*

Падзеі адбываліся ў Мінску ў кастрычніку мінулага года. На той час Мікалай Карпіевіч займаў пасаду старшыні камітэта па барацьбе з карупцыяй адміністрацыі прэзідэнта. Але ў той злашчасны вечар яго самога закавалі ў наручнікі і даставілі спачатку ў наркалагічны дыспансер, а пасля завезлі ў міліцэйскі пастарунак. Вось як гэта адбывалася. Цытуем рапарт двух інспектараў ДАІ:

***Начальнику***
***Московского ОГАИ***
***м-ру милиции***
***Слесаренко О.И.***

*Рапорт*

*Докладываю Вам, что во время несения службы 12.10.95 г. в 20:30 на ул.Ногина была остановлена автомашина ВАЗ 2107 1487 КН под управлением Карпиевича Н.Ф. После предъявления документов, водителю было предложено присесть в служебную автомашину, так как от него исходил запах спиртного. Водителю было предложено освидетельствоваться по индикаторной трубке "контроль трезвости", на что он категорически отказался. Мы предложили ему проехать в наркологический диспансер для мед. освидетельствования. Сержант милиции Джигеро С.Я. сел с водителем в его автомашину, я начал движение за ними, но тут вдруг водитель выскочил из автомашины, перепрыгнул через забор и побежал в сторону театра "Музкомедия". Я выбежал из своей автомашины и начал преследование. Догнали мы его совместо с сержантом Джигерой около здания театра, водитель сбросил плащ и попытался вырваться. Я к нему применил физическую силу, прием самбо, одел наручники. После этого водитель прекратил сопротивление, успокоился, мы провели его к моей автомашине. Его автомашину доставили на штрафплощадку, водителя свозили на мед. освидетельствование и доставили в дежурную часть Московского РОВД для дальнейшего разбирательства.*

**Инспектор ДПС старшина милиции Лозовский В.Т. (подпись)**

**Инспектор ДПС сержант милиции Джигеро С.Я. (подпись)**

**12.10.95**

Прайграўшы бітву з патрульнымі міліцыянтамі, прэзідэнцкі барацьбіт з карупцыяй узяў сваё на больш высокім узроўні. Праз пару дзён міліцэйскае начальства прыкрыла справу і вярнула таварышу Карпіевічу ягоныя вадзіцельскія дакументы.

Аднак астатняя дакументы (рапарт інспектараў ДАІ, міліцэйскі пратакол № 083071 і пратакол медэкспертызы № 5303, дзе зафіксавана "алкогольное опьянение") адцягвалі ўвагу тав.Карпіевіча ад змагання з карупцыяй. Акрамя таго, прэзідэнцкі барацьбіт ужо быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета і рыхтаваўся перайсці з прэзідэнцкай структуры ў парламенцкую — на пасаду старшыні камісіі. Але скандальная гісторыя не давала Карпіевічу спаць спакойна. Мы не ведаем як развіваліся падзеі, але вынік быў такі: перад тым, як у Вярхоўным Савеце пачалося прызначэнне старшыняў камісій, усе кампраметуючыя М.Карпіевіча міліцэйскія паперы былі знішчаныя.

Ці меў да гэтага дачыненне міністр Валянцін Агалец — дакументальная пацверджання няма.

Але тут якраз "уляпаўся" і ён сам. У беларускай і расійскай прэсе была абнародаваная гісторыя пра кватэрныя махінацыі генерала Агальца. Пайшоў шум: маўляў, парламент не павінен зацвярджаць такую фігуру на пасадзе шэфа МУС. Старшыня камісіі ВС Мікалай Карпіевіч заявіў, што ягоная камісія вывучыць усе матэрыялы па "справе Агальца" і паведаміць парламенту сваё заключэнне. Сёння-заўтра ў Вярхоўным Савеце пра гэта павінна ісці гаворка. Але можна не сумнявацца, што заключэнне будзе станоўчым. Карпіевіч і Агалец цяпер у адной лодцы. І на "дно" яны могуць пайсці толькі разам.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

*P.S. Па першым жа запыце рэдакцыя СВАБОДЫ гатовая перадаць Генеральнаму пракурору копіі знішчаных дакументаў.*

**ШЛЯХ**

## Ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці

**"Чарнобыльскі шлях-96" пачнецца 26 красавіка а 17-й гадзіне ў Мінску і пройдзе ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці, дзе адбудзецца мітынг.**

Пра гэта паведамляецца ў звароце, які перадаў у прэсу Нацыянальны аргкамітэт, утвораны дэмакратычнымі арганізацыямі Беларусі.

Ацэньваючы цяперашнюю чарнобыльскую палітыку, аўтары звароту адзначаюць, што "усялякія спробы штучна змяншыць маштабы трагедыі і яе наступстваў для здароўя і жыцця цяперашніх і будучых пакаленняў лягуць пракляццем на таго, хто пасмее гэта зрабіць".

У звароце таксама гаворыцца: "Каб выратаваць сябе і сваю будучыню, усім трэба разумець, што поруч з Чарнобылем радыяцыйным нас падточвае Чарнобыль духоўны і знішчаюцца чалавечыя годнасць і правы асобы, разбураюцца мараль і сумленне, зневажаюцца духоўныя і культурныя святыні беларусаў, улада не лічыцца з Канстытуцыяй і законамі, ідзе ганебны наступ на родную мову. Урэшце, пра якое адстойванне інтарэсаў Беларусі і яе народу можна казаць, калі ўрад робіць усё, каб пазбавіць нашу краіну дзяржаўнай незалежнасці!"

Нацыянальны аргкамітэт нагадвае, што "ў 1989 годзе дзесяткі тысяч людзей з усёй Беларусі выйшлі на галоўны праспект сталіцы, каб засведчыць свой пратэст супраць ганебнага замоўчвання ўладамі праўды аб Чарнобылі. Наспеў час зноў выйсці на праспект Скарыны, каб засведчыць перад усім светам, што чарнобыльская праблема не адышла ў мінуўшчыну. Беларускі народ мае права на абарону ад радыяцыйнага Чарнобыля і ад Чарнобыля духоўнага."

Пад зваротам стаяць подпісы **В.Быкава (старшыня аргкамітэту), С.Багданкевіча, Р.Барадуліна, В.Вячоркі, Н.Гілевіча, Г.Грушавога, Г.Карпенкі, С.Шушкевіча, Ю.Хадыкі і інш.**

**ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ**

## Сустрэнемся праз тыдзень

**Паведамляем вам прыемную навіну: рэдакцыя СВАБОДЫ ладзіць сустрэчу з чытачамі газеты, падчас якой будзе праведзены таксама розыгрыш нашай латарэі. Гэта адбудзецца ў суботу 27 красавіка, у Доме літаратара (вул.Фрунзэ,5). Пачатак сустрэчы а 15-й гадзіне.**

**Другая навіна не вельмі прыемная: наступны нумар СВАБОДЫ выйдзе толькі праз тыдзень, у пятніцу 26 красавіка. Аўторкавы выпуск мы вымушаныя прапусціць з прычыны таго, што ў нашай краіне выходныя дні з'яўляюцца непрацоўнымі нават для паштовага ведамства.**

**РЭДАКЦЫЯ**

СВАБОДА
19 красавіка 1996 г., № 29

# Выхаванне паліцэйскай дубінкай

*Гэтае красамоўнае сучаснае фота нагадвае мне ідылічную песеньку "Когда поют солдаты, спокойно дети спят". Як бачым, салдаты, хай сабе і ў міліцэйскай форме, больш не спяваюць, "наступіўшы на горла" сваёй песні. Дзеці таксама ўжо не тыя, што былі раней, і больш не глядзяць на свет праз ружовыя акцябрацка-піянерскія акуляры. Колішняй штучнай ідыліі як быццам і не было ўвогуле.*



## «Далоў Ніксана!»

У старым савецкім анекдоце пра два прыклады дэмакратычнасці амерыканскі прэзідэнт пахваляўся тым, што любы грамадзянін ЗША можа спакойна пракрычаць каля Белага дома "Далоў Ніксана!", і ніхто яго не арыштуе. "Тое ж самае і ў нас, — не здзівіўся Брэжнеў у адказ, — можна прыйсці да Маўзалея і колькі хочаш крычаць "Далоў Ніксана!".

Асабіста я выразна памятаю, як на сваіх школьных сходах мы з абурэннем асуджалі чылійскі путч, вайну ва В'етнаме, у Анголе ды іншыя падзеі ў свеце. Шчыра скажу, што нам тады нават не прыходзіла ў галаву, каб выйсці на пляц і пратэставаць супраць нейкіх савецкіх з'яваў. Праўда, школу я скончаў у Літве і мне даводзілася чуць аб праявах пратэсту з боку саміх літоўцаў. Напрыклад, пра маладзёжныя хваляванні ў Коўне (разганяць іх кінулі дэсантнікаў) або аб тым, як у Дзень незалежнасці Літвы нехта вывесіў у горадзе нацыянальны, а не савецкі сцяг. Аднак мы вучыліся ў рускай школе і гэтыя падзеі не краналі тады нашых пачуццяў.

Бацькі нашы, такім чынам, не мелі з намі ідэалагічных разыходжанняў. Усе непаразуменні, барацьба за свае правы — у сям'і і ў школе — канчаліся на жаданні без забароны слухаць нармальную (несавецкую) музыку, мець даўжэйшыя, чым у салдат, валасы і сапраўдныя джынсы.

## Дзеянне і супрацьдзеянне

Цяперашнія беларускія ўлады не маюць галоўнага, каб уплываць на моладзь — адпаведнай ідэалогіі. Стварыць яе з кавалкаў камуністычнай дактрыны, настальгіі па СССР, навязлівага рэкламавання ўзаемнай любові трох усходнеславянскіх "братоў" (замест ранейшай "дружбы народаў"), замяшанай на праваслаўі ўзору маскоўскага патрыярхата, — немагчыма. Не можа па-сапраўднаму зніцтоўваць тое, што само распаўзаецца, як кепска замяшаная рашчына, калі значную частку цэмента скралі і цяпер марна спрабуюць кампенсаваць крадзеж пяском.

Ідэалогію, якая цэментуе, мае сёння апазіцыя. У альтэрнатыве "свабода — несвабода" здароваму імкненню да незалежнай нацыянальнай дзяржавы наканавана канчатковая перамога. Аспрэчваць гэта няма сэнсу, паколькі прэзідэнцкая ўлада сваімі апошнімі дзеяннямі ўсяляк узмацняе адраджэнскія тэндэнцыі ў грамадстве і перадусім менавіта сярод моладзі. Як добра вядома: сіла дзеяння роўная сіле супрацьдзеяння і наадварот.

Афіцыйныя газеты вуснамі сакратара сённяшняга беларускага камсамолу радасна паведамілі, што гэтая арганізацыя ўхваляе ўтвораны ў Маскве ССР. Ну і што? Уплываць на думкі моладзі падобная анахранічная суполка ўжо не ў стане. Загнаць маладых на цаліну або на БАМ ужо немагчыма, завабіць воклічамі "Любовь, комсомол и весна" або "Партия сказала: надо! Комсомол ответил: есть!" — тым болей. Спробы стварыць новую ідэалагічную абракадабру з пастулатаў Леніна, "бацькі" і Алексія II таксама не дадуць плёну!

Бітву за моладзь прэзідэнцкая вертыкаль ужо прайграла, нават не пачынаўшы яе. Як памятаем, КПСС трымала маладых пад пастаянным кантролем, усё было прадвызначана: абавязковая сярэдняя адукацыя, для хлопцаў — войска, затым ПТВ і завод. Ідэалагічны кантроль ажыццяўляўся, апроч іншага, праз той жа камсамол, членства ў якім было амаль абавязковым. Цяпер войска, ад якога юнакі ўсяляк імкнуцца ўхіліцца, скарачаецца. Вайсковыя заводы — напалову мёртвыя. Самае вялікае беспрацоўе сёння менавіта сярод моладзі. Пасля заканчэння 9-ці класаў вялікую частку вучняў літаральна выкідваюць са школы. Куды? Напрыклад, у ПТВ, выпускнікі якіх на заводах у большасці сваёй не патрэбны.

Карацей, сённяшняя ўлада не здольна даць маладым галоўнага — магчымасці зарабіць сабе на хлеб. Больш за тое, гэтая ўлада перашкаджае маладым атрымаць працу, паколькі ўсяляк тармозіць развіццё прадпрымальніцтва, стварэнне прыватных прадпрыемстваў. А дзяржаўныя, дзе "працуюць" бацькі, ледзьве "дыхаюць".

## Людзей у форме ўсё больш

Фюрэр, як вядома, заняў і тым самым прывабіў моладзь на свой бок тым, што павялічыў колькасць прадпрыемстваў абароннай прамысловасці і ў некалькі разоў павялічыў войска... Канечне, гэта выйсце: пасылаць свае войскі "міратворцамі" ў Таджыкістан, у Чачню або яшчэ на якую-небудзь вайну. Аднак самі ўлады пакуль пабойваюцца такога непапулярнага кроку.

Аказваецца, можна яшчэ заняць юнакоў інакш — цераз стварэнне ўсё новых і новых падраздзяленняў для барацьбы з міфічным тэрарызмам — розных "альф" і "амег", спецназаў і амонаў, карацей — карных атрадаў. Раптам, у абыход міжнародных пагадненняў, у РБ пачынае павялічвацца войска, праўда не падпарадкаванае мінабароны, а — міліцэйскае. У кожнай вобласці спешна пачалі ствараць па асобным палку міліцыі. Напрыклад, спачатку сфармавалі батальёны ў Гродне, цяпер — у Лідзе, затым, напэўна, надыйдзе чарга Смаргоні — карацей, тых гарадоў, дзе найбольш актыўныя дэмакратычныя арганізацыі. Ці выпадкова гэта? Міжволі прыходзіць параўнанне з 1944-46 гадамі, калі якраз у прылеглых да Літвы раёнах, у вёсках і мястэчках размяшчаліся палкі НКВД. Іх выкарыстоўвалі для барацьбы з антысавецкай партызанкай, пераважна з Арміяй Краёвай.

Далейшы сцэнарый можна прадбачыць. Калі створаць па міліцэйскім батальёне і ў іншых больш гарадах вобласці — Ваўкавыску, Слоніме, з іх можна будзе сфармаваць полк. А ў Гродне самы першы батальён плюс абавязковы для такога горада амон няцяжка будзе разгарнуць у другі полк. Усё ж абласны цэнтр, ды яшчэ прыгранічны! Тым болей на вул.Чырвонаармейскай, дзе размяшчаецца міліцэйскі батальён і "вучэбка", месца ў казармах хапае.

Канечне, лішнія ахоўнікі парадку заўсёды дарэчы. Батальёны якраз нясуць патрульную службу. Аднак на рост злачыннасці гэта асабліва не ўплывае. Чаму? Папершае, рыхтуюць іх усё ж да іншай мэты. А па-другое, бюджэтныя грошы выдаткоўваюць на стварэнне новых палкоў і з-за гэтага оперслужбы міліцыі не маюць магчымасці якасна палепшыць сваю дзейнасць, паколькі мусяць працаваць як той Шэрлак Холмс ледзьве не з адной толькі лупай... Напрыклад, гродзенская міліцыя не мае партатыўных дэтэктараў валюты і мусіць кожны раз звяртацца ў абменныя пункты. Ёй патрэбны дзесяткі следчых чамаданчыкаў з наборам крыміналістычнага начыння, якія выкарыстоўваюцца ў іншых краінах для збору доказаў на месцы злачынства. Я ўжо не кажу пра сучасныя аўтамабілі, без якіх немагчыма дагнаць злачынцаў, якія не шкадуюць грошы на мерседэсы.

Атрымліваецца, што ўвесь час урад павялічвае асігнаванні на сілавыя структуры, у тым ліку і на МУС, аднак барацьба са злачыннасцю застаецца пры гэтым як бы па-за ўвагай. Галоўнае — грунтоўна падрыхтавацца да біцця палкамі палітычнай апазіцыі.

## Афганскі сіндром

Дзесяць гадоў таму, калі ў Траецкім прадмесці ў Мінску "воіны-інтэрнацыяналісты" білі школьнікаў, у тым ліку і дзяўчат, у Беларусі па сутнасці ўжо пачалося стварэнне паліцэйскай дзяржавы. Улады, і той жа камсамол, маўкліва падтрымалі гвалт. Сёння афіцыйна не толькі дазволена біць, але — загадана! Беларусь стала парадаксальна нагадваць Польшчу 1980-81 гг. — часоў вайсковага становішча. Польскіх маладзёнаў у форме змушалі біць такую ж польскую моладзь, але — рабочую, студэнцкую, якая ўдзельнічала ў страйках і маніфестацыях. Камуністычную ўладу гэта, аднак, не ўратавала ад палітычнага фіяска, а маладзёжны рух толькі атрымаў моцны імпульс да развіцця. Усё як у нас!

Разам са школьнікамі ў Траецкім прадмесці дасталося тады і даволі немаладому масціта маэстра — заслужанаму мастаку СССР (не будзем называць яго прозвішча), які ў час акупацыі ледзь не загінуў у фашысцкім канцлагеры. Абражаны пабоямі, гэты паважаны ў грамадстве чалавек аднак, паразважаўшы, прыняў бок тупой сілы, пакланіўшыся ўладзе, якая зрабіла нормай збіваць нязгодных з ёю. Сын гэтага чалавека ў час леташняга рэферэндума ўвогуле выступіў на тэлебачанні ў якасці падбрэхіча ўладаў. Але такіх сярод моладзі, тым больш сярод творчай, напэўна адзінкі.

У сваім школьным юнацтве мы з сябрамі былі абыякавыя да літоўскага нацыянальнага сцяга і да вялікага бронзавага помніка паўстанцам 1863 года, які стаяў у нашым горадзе. Нашым пратэстам супраць нецікавай рэчаіснасці было толькі захапленне рокпеснямі, англійскія тэксты якіх мы мала разумелі. Таму мяне сёння вельмі цешыць беларуская моладзь, якая любіць свае нацыянальныя сімвалы, ведае пра паўстанцаў Кастуся Каліноўскага (дзякуючы падручнікам гісторыі), які клікаў свой народ вызваліцца з-пад "расейскага ярма", і спявае на дэманстрацыях пад бел-чырвона-белымі сцягамі песню са зразумелым тэкстам: "Прэзідэнт, ідзі дамоў!"

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

***ПРАВІНЦЫЯ***

## Віцебскія прысмакі для Вольфавіча

**Віцебскія прыхільнікі Жырыноўскага збіраюцца ў Маскву на святкаванне дня нараджэння Уладзіміра Вольфавіча, які будзе 25 сакавіка адзначаць свой 50-гадовы юбілей.**

У якасці падарунка яны вязуць з сабою 10-кілаграмовы бюст Вольфавіча, выраблены мясцовым скульптарам, а таксама беларускія прысмакі (у прыватнасці, марынаваныя грыбы і вэнджаную ласяціну).

**Барыс ХОЛАД**

## Шклоўскія коні заваёўваюць італьянскі рынак

**Паспяхова гандлюе коньмі з Італіяй калгас "Ніва" Шклоўскага раёну.**

Ужо прададзена 25 коней. Прыбытак гаспадаркі склаў каля паўмільярду рублёў. Як лічыць кіраўніцтва гаспадаркі, захапленне італьянцаў шклоўскай канінай абяцае вялікія прыбыткі і надалей. Ва ўсякім выпадку, гандаль з Апенінамі больш выгодны для шклоўчанаў, бо на радзіме высокія падаткі робяць тую ж каніну "нясмачнай" для пакупніка. Мы ж не італьянцы...

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

СВАБОДА
19 красавіка 1996 г., № 29

# Alexander the Not-So-Great

## *Часопіс Economist піша пра "сатрапа, падобнага на Чаўшэску"*

**У апошнім нумары англійскага часопіса The Economist (13-19 красавіка) змешчаны артыкул пра беларускага прэзідэнта пад загалоўкам Aleksander Not-So-Great — у дасл оўным перакладзе "Аляксандр Не-Надта-Вялікі". Але тут ёсць яшчэ адзін нюанс. Калі англічане на пытанне: "як маешся?" адказваюць "not so great", гэта азначае — "горш няма куды". Мы вырашылі перадрукаваць гэты артыкул цалкам, без скарачэнняў.**

Калі дагавор паміж Расіяй і Беларуссю аб стварэнні Садружнасці суверэнных рэспублік не цалкам самы дурны дакумент з ліку падпісаных еўрапейскімі дзяржавамі ў сучасную эпоху, дык ён напэўна павінен быць аднесены да ліку самых цынічных. Яго галоўная мэта — выйграць галасы выбаршчыкаў для аднаго прэзідэнта і выйграць час — для другога. З гэтага пункту гледжання дагавор даў імгненны вынік.

Ён дапамог Барысу Ельцыну пачаць у меншай ступені выглядаць разбуральнікам савецкага Саюза, а больш будаўніком імперыі. Як сведчыць апытанне грамадскай думкі, Ельцын амаль зраўняўся ў падтрымцы выбаршчыкаў з галоўным супернікам Генадзем Зюганавым.

Для Аляксандра Лукашэнкі, прэзідэнта амаль зруйнаванай Беларусі, дагавор даў магчымасць стварыць падманлівы вобраз будучага росквіту, які будзе грунтавацца на шчодрасці Расіі. Дагавор стаў яшчэ адной ілюзіяй для адцягнення ўвагі 10 мільёнаў падданых Лукашэнкі ад паглыблення беднасці. Папулярнасць Аляксандра Лукашэнкі падскочыла на мінулым тыдні да найвышэйшага ўзроўню з моманту яго абрання ў 1994 годзе. Гэта вынік яго нагага папуліцкага майстэрства і маладой харызмы, якія забяспечваюць здзіўляючы ўзровень энтузіязму і падтрымкі даволі кансерватыўнага і пераважна сельскага насельніцтва.

Але ўсяго праз пару месяцаў рэальнасць можа ўварвацца на Беларусь і таксама паўстаць перад Лукашэнкам. У Расіі няма грошай для падтрымкі Беларусі на плаву. А ў Беларусі, дзе сярэдняя зарплата складае каля 60-80 долараў у месяц, а аб'ём эканомікі летась упаў на 10%, грошай увогуле няма ні на што. Размовы пра эканамічную канвергенцыю і наднацыянальныя органы паводле мадэлі Еўрапейскага Саюза не больш чым сатрасенне паветра, хаця няма сумнення, што кошты стварэння бюракратыі новай садружнасці з яе камісіямі і сотнямі супрацоўнікаў будуць дастаткова рэальныя.

Калі і будзе яшчэ больш інтэграцыі ў бліжэйшай будучыні паміж Расіяй і Беларуссю, яна адбудзецца не на грандыёзных умовах суверэнітэту, роўнасці і добрага жыцця для ўсіх, як абвешчана ў дагаворы. Інтэграцыя адбудзецца, бо Беларусь, якая амаль літаральна падае на парозе Расіі, можа быць узятая Расіяй проста так. І калі б фанабэрыя Лукашэнкі не перавышала яго ны цынізм, ён мог бы задумацца вось над чым: калі Расія сапраўды возьме да сябе Беларусь, нашто ёй будзе чалавек, у значнай меры адказны за цяперашняе падзенне Беларусі.

Былы кіраўнік саўгаса, неабыякавы да Гітлера, Лукашэнка імкнецца дасягнуць дзвюх несумяшчальных мэтаў. Першая, у асноўным дасягнутая, палягае ў цэнтралізацыі ўсёй палітычнай і эканамічнай улады пад яго ным адзінаасобным кантролем. Другая заключаецца ў тым, каб знайсці спосаб перакінуць каго-небудзь заплаціць за катастрафічны стан справаў — і гэта ўжо не такая простая задача.

Міжнародны валютны фонд, галоўная крыніца крэдытавання, настроены адмовіцца ад фінансавання Беларусі. З прычыны адкрытай варожасці Лукашэнкі да рэформаў, МВФ замарозіў прадстаўленне 230 млн. долараў крэдыту *stand by*. У Лукашэнкі не застаецца іншага выбару, як маліць аб субсідыях Маскву — якая спісала ў лютым запазычанасць у 1,4 мільярды долараў і працягвае пастаўкі жыццёва неабходнага газу, за які мае малую надзею атрымаць поўную аплату. Цяпер, з дагаворам у руках, Лукашэнка робіць выгляд, што яму і Ельцыну па сілах аднавіць заляты дзянькі Савецкага Саюза, калі Беларусь вырабляла прамысловую прадукцыю і вырошчвала прадукты харчавання для расійскага рынка і жыла на гэтыя даходы адносна добра. Ельцына задавальняе гульня — пакуль. Але пасля заканчэння прэзідэнцкіх выбараў (незалежна ад іх выніку) Лукашэнка ўжо не будзе прывілеяваным асобай у Крамлі.

Калі выбары выйграе Ельцын, ён верагодна будзе дастаткова дасціпным, каб кінуць Лукашэнку аднаго ў чыстым полі, пакуль Беларусь працягвае апускацца ўсё ніжэй. Гэта хутка вымусіць Лукашэнку абраць адзін з двух шляхоў: радыкальнага рэфармавання, каб запрацавала эканоміка, ці больш жорсткіх рэпрэсій, калі народ выступіць супраць яго. Кожны з гэтых варыянтаў выгадны Расіі. Першы можа быць спрыяльным для расійскага гандлю і інвестыцыяў. Але калі Лукашэнка пойдзе па шляху рэпрэсій, гэта дасць Крамлю магчымасць ажыццявіць пад любой падставай захоп Беларусі і выглядаць у вачох Захада выратавальнікам.

Перамога на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі лідэра камуністаў Генадзя Зюганава можа выглядаць значна больш шматабяцальнай для Лукашэнкі. Сапраўды, калі партыя паставіла аднаўленне СССР у якасці аднаго з галоўных момантаў выбарчай кампаніі, наўрад ці падобныя памкненні Беларусі не будуць аддзячаныя. Расійскіх камуністаў не збянтэжыць лукашэнкаўская камандная эканоміка, татальная тайная паліцыя і наморднік на СМІ.

Але намнога менш ясна, ці будуць камуністы гэтаксама прыхільныя да самога Лукашэнкі. Бо калі б камуністы Зюганава захацелі ўключыць Беларусь у поўны саюз з Расіяй, яны, безумоўна, хацелі б, каб улада была ў руках мясцовай кампартыі, якую яны ведаюць і разумеюць, а не апушчаная да ўзроўню некіруемага сатрапа, болей чым падобнага да Чаўшэску.

Ці трэба Захаду хвалявацца з прычыны паглынання Расіяй Беларусі? Магчыма, не надта. Улічваючы эканамічную залежнасць Беларусі ад Расіі, мытны саюз і тое, што расіяне ўжо ахоўваюць беларуска-польскую мяжу, суверэнітэт краіны у значнай ступені разбураны. Галоўная небяспека фармальнага саюза была б у стварэнні прэцэдэнту, пасля якога Расія зверне ўвагу на менш паслухмяныя тэрыторыі — Грузію і, магчыма, Украіну.

Аднак рэакцыя Захаду не павінна абмяжоўвацца ўсведамленнем таго, што на Беларусі існуе рэальная падтрымка саюзу з Расіяй. Будзе і значная апазіцыя, што даказала 30-тысячная акцыя пратэсту ў Мінску 2 красавіка, калі быў падпісаны дагавор аб саюзе. Але Беларусь — не Чачня. Безумоўна, яна значна адрозніваецца ад Расіі, як заяўляюць лідэры патрыятычнага руху, на яе культуру паўплывалі стагоддзі існавання ВКЛ і Рэчы Паспалітай, каталіцкія карані ў гэтай краіне не менш глыбокія, чым праваслаўныя. Але ў Беларусі няма доўгай традыцыі незалежнасці і амаль не існавала працяглага паўстанцкага руху. Традыцыя гэтай краіны — быць пад абцасам суседзяў. І, магчыма, перадолець гэтую традыцыю будзе цяжка.

*The Economist*
*Пераклаў*
**Аляксандр ЛУКАШУК**

# Духоўны Чарнобыль

## *Аб маральных уроках чарнобыльскага дзесяцігоддзя карэспандэнт СВАБОДЫ гутарыць з прэзідэнтам фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзем Грушавым*

**— Сп.Грушавы, вы пэўна пагодзіцеся, што Чарнобыль — гэта не толькі радыяцыя, што знішчае нас сваімі промнямі. Гэта таксама і экзамен на маральнасць, на духоўны стан грамадства. Ці вытрымае яго Беларусь? Ці засвоілі мы маральныя ўрокі Чарнобыля?**

— Гэта няпростае пытанне. Урокі Чарнобыля маюць розныя ўзроўні. Можа, на ўзроўні першапачатковай школы гэты ўрок нашы людзі засвоілі. Здаецца, усе разумеюць, што існуе небяспека для іх дзяцей, што неабходная падтрымка ў выглядзе сацыяльных праграмаў, увага і дапамога міжнароднай супольнасці. А вось тое, што трэба не толькі чакаць і прасіць, але яшчэ і нешта рабіць самім, за нешта адказваць асабіста — не засвоілі. На жаль, нават большасць тых, хто пацярпеў ад Чарнобыля, не думаюць аб адказнасці за лёс наступных пакаленняў.

**— Хіба гэта іх віна?**

— Іх таксама. Хаця тут трэба адзначыць недапрацоўку грамадскіх арганізацыяў, якія ўзяліся за чарнобыльскую справу. Мы таксама не здолелі падштурхнуць нашых людзей да ўнутранага развіцця, без якога немагчыма адказна ўспрымаць свой лёс. Аб чым яскрава сведчыць тое, як пасіўна нашыя людзі ўспрымаюць перспектыву згортвання чарнобыльскіх праграм.

**— Дзесяць год таму здавалася, што чарнобыльская бяда аб'ядная нацыю. Ці не атрымліваецца, што на самой справе прайшоў новы падзел? Як паміж хворым і здаровым, якія адзін аднаго не разумеюць?..**

— На жаль, ёсць і такія прыклады, хаця я б не пагадзіўся, што размежаванне ў памерах усяго грамадства сапраўды адбылося. Але супрацьстаянне існуе. На якім знаў спрацавалі бюракратычныя, наменклатурныя падыходы. Напрыклад, калі пачалася праграма адсялення, у Мінску чарнобыльцам далі тыя кватэры, якіх чакалі тысячы жыхароў сталіцы. Гэта было зроблена замест таго, каб пачаць самастойную будаўнічую праграму. У выніку многія мінчане і жыхары іншых буйных гарадоў так і не атрымалі жылля. Каго яны вінавацяць? Канечне, чарнобыльцаў. А трэба прад'яўляць рахунак тым чыноўнікам, якія знайшлі самае лёгкае рашэнне за кошт бездапаможных жыхароў.

**— Раней грамадству навязваўся так званы маральны кодэкс будаўніка камунізму. І хаця гэта кепская аналогія, але, паколькі слова з песні не выкінеш, ці не варта казаць пра неабходнасць нейкага маральнага кодэкса чарнобыльца?**

— Не, дзякуй Богу, карэнныя каштоўнасці людзей, што пацярпелі ад Чарнобыля, не з'яўляюцца і не павінны з'яўляцца нечым асаблівым. Хутчэй трэба казаць пра неабходнасць барацьбы з карозіяй звычайных для чалавека маральных каштоўнасцяў, а не прыдумваць нейкія новыя. На жаль, большасць людзей і раней, і зараз прымае такую жыццёвую філасофію: "Ад мяне нічога не залежыць, я чалавек маленькі, таму ні за што адказваць не хачу". На маю думку, гэтая філасофія з'яўляецца асноўнай крыніцай бездухоўнасці і амаральнасці. Тыповы прыклад: у вёсцы, што пацярпела ад Чарнобыля, адны дзеці па дзесяць разоў ездзяць на аздараўленне за мяжу, а другія ўвогуле не могуць дачакацца сваёй чаргі. Бо шмат хто лічыць нармальным хлусіць, рабіць нейкія фальсіфікацыі. А што пабач жыве такая ж сям'я, якая гэтак жа пакутуе ад Чарнобыля — іх не хвалюе. Пагадзіцеся, што гэта не супрацьстаянне паміж чарнобыльскімі і нечарнобыльскімі групамі насельніцтва, а супрацьстаянне паміж рознымі маральнымі пазіцыямі.

**— Ці здольная сённяшняя ўлада паклапаціцца аб тым, каб гэтыя пазіцыі зблізіць?**

— Павінна была б, але часцей грамадзянін атрымлівае іншы прыклад: гэта ж факт, што мясцовае самакіраванне ў нас не развіваецца, а нават згортваецца, грамадзянская супольнасць не фарміруецца, а нават разбураюцца ўжо існуючыя структуры. Грамадзянін кожны дзень чуе ад улады: не суйся, гэта не твая справа, усё вырашаць без цябе. У выніку ён нешта робіць выключна для сябе, але тое, што датычыцца лёсу Радзімы, грамадства, яго не турбуе. Вось і адбываюцца дзіўныя рэчы, калі большасць пераслененцаў, што жывуць у Мінску, не ўдзельнічаюць у выбарах. Так было ў мікрараёнах Малінаўка, Паўднёвы Захад. Найніжэйшую актыўнасць на выбарах прадэманстравалі жыхары "чарнобыльскіх" дамоў! Гэта ж факт. Атрымліваецца, гэтым людзям не патрэбен дэпутат, не патрэбныя парламент, законы. Яны свайго дамагліся — жывуць у сталіцы — а далей хоць трава не расці...

**— Іх запэўнілі, што ім нехта павінен усё даць...**

— Так. Калі не дасць дзяржава, яны прыйдуць да нас у фонд. Мы не зможам даць — яны будуць шукаць ворага, касцы абвінавачваць. А сёння трэба зразумець, што спадзявацца можна толькі на сябе і не дапусціць вяртання ў 1988 год, бо паправіць сітуацыю будзе куды цяжэй.

**— Вы гаворыце пра так званую пяцібэрную канцэпцыю?**

— Канцэпцыя сама сабою. Калі яна будзе пакладзена ў аснову новай дзяржаўнай праграмы па Чарнобылю, пазбавіцца дзяржаўнай дапамогі грамадзяне, якія пражываюць на тэрыторыі з забрудкаваннем ад 1 да 5 Кюры на кіламетр. А гэта прыкладна паўтара мільёна чалавек. Такім чынам мы вяртаемся ў 1988 год. Нагадаю, што Кабінетам міністраў канцэпцыя ўжо па сутнасці прынятая. Уявіце сабе, якія страты мы панясем у фізічным, ды і ў маральным стане нашага грамадства! Дзесяцігадовая барацьба, якая не прынесла поспеху — гэта ж падстава да велізарнага маральнага і псіхалагічнага надлому цэлага народу!

**— А ці ёсць, на ваш погляд, у Чарнобыля хоць нейкія, скажам так, станоўчыя моманты?**

— Праз Чарнобыльскую трагедыю ёсць магчымасць абудзіць людзей да сацыяльнай адказнасці. Гэтая адказнасць неабходная на ўсім свеце, але ў першую чаргу ў Беларусі. У Еўропе, напрыклад, людзі ўжо разумеюць, які хісткі іх дабрабыт, якое прывіднае іх шчасце — гэта прадэманстраваў ім Чарнобыль. У нас такія высновы яшчэ толькі ўваходзяць у свядомасць. Нашы людзі стараюцца забыць Чарнобыль, а ён ужо стаў агульным лёсам не толькі Беларусі, але і ўсіх краінаў. Ад яго не пазбавіцца.

**— Аб іншых краінах. Вось мы ўжо крычым — "Ратуйце нас, дапамажыце". А каму дапамаглі мы? Ці не здаецца вам, што самі беларусы адвучыліся спачуваць іншаму гору? Не ратуем чужых дзяцей, не падымаем свой голас у падтрымку ахвяр генацыду, розных дыктатур, катастроф. Ці не так?**

— Чарнобыльскае дзесяцігоддзе паказала мне шлях унутранага пераўтварэння. Спачатку ты адчуваеш сябе ахвярай, кругом усе вінаватыя. Потым ты разумееш, што і сам з'яўляешся прычынай бяды, бо некалі не хацеў ёй супрацьстаяць, маўчаў ці нават садзейнічаў. І толькі пасля маральных пакут і пэўнай дапамогі людзям — дзецям, суседзям, суайчыннікам — ты ўжо падрыхтаваны да таго, што не будзеш адварочвацца ад бяды і ў другіх краінах. Беларусі такі цяжкі шлях проста наканавана прайсці і, магчыма, у гэтым яе выратаванне.

*Гутарыў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

